

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 19 (47) 16—22 чэрвеня 1993 г. Цана 3 рублі


## У НАС У ГАЗЕЦЕ:

- Чытайма палітычных апанентаў
- І Маркс быў камерсантам?
- Проста інфармацыя
- ТБ, кіно

## А беспрацоўнаму няёмка

На цэнтральнай плошчы Сянно адноўлены стэнд гонару. На ім змешчаны імёны лепшых працаўнікоў прамысловасці, сельскай гаспадаркі, народнай адукацыі, культуры, аховы здароўя і г. д.

Зноў такім чынам, мусіць, даецца ў знакі сверб-настальгія па прыкметах сацыялістычнай саўковасці? Зноўку, пэўна, камусьці хочацца матэрыяльныя вынікі працы замяніць маральнай ацэнкай? Зноў да камунізму?

М. МАРУДАЎ.




*Пол Мор прыехаў на Беларусь у 32-гі раз.*
**Фота С. АНТОНА.**

# Інтэрвію старшыні Віцебскай Рады БНФ «Адраджэньне» М. Паўлава

**«Выбар»: Як Вам, спадар Паўлаў, публікацыя Л. Масьлюковай у «Советской Белоруссии» ад 26 траўня г. г.!**

**М. П.:** Матэрыял мне спадабаўся, але адзначу, што спадарыня Масьлюкова карысталася дрэнным перакладам, з-за чаго маюцца пэўныя недарэчнасьці і няўдалыя акцэнты. Напрыклад, незразумела, як можна скласьці (і навошта?) справаздачу пра парламенцкія дэбаты аб новым законе пра выбары. У пратаколе адзначана— даслаць новы беларускі закон пра выбары на азнаямленьне ў Нямеччыну. У кантэксьце артыкула правільна пазначана, што конта ў Народным банку Нінбурга вызначана для ўсіх дэмакратычных партый Віцебска. Дакладная пазнака рахунку—садзейнічаньне дэмакратыі ў Віцебску. Але ж не, у загаловак выносіцца назва «Счет в банке Ниенбурга для Витебской рады БНФ». Прынамсі конта ў банку—гэта іхная нямецкая справа, я ж яго не адчыняў. На рахунак паступаюць грашовыя ахвяраваньні ад прыватных асобаў. Ня так ужо й лёгка сабраць гэтыя сродкі, таму і ўтварылася рабочая група ў Нінбургу дзеля спрыяньня дэмакратыі ў Віцебску. Я мяркую атрымаць гэтыя ахвяраваньні з поўным выкананьнем патрабаваньняў законаў Беларусі. Паступленьне сродкаў у валюце не супярэчыць Статуту БНФ «Адраджэньне».

**«Выбар»: А як наконт умяшаньня іншаземцаў ва ўнутраныя справы Беларусі!**

**М. П.:** Перадусім павінен зьвярнуць увагу на тэрміналогію публікацыі: перадвыбарчыя турніры, перадвыбарчая кампанія. Адначасова ўжываецца і больш звыклы тэрмін—выбарчая кампанія. Ад гэтай мешаніны ствараецца ўражаньне пра бясконцыя выбары на Беларусі. Але па сутнасьці перадвыбарчая кампанія—гэта будзённая, звычайная да ачмурэньня чорная праца ўдзельнікаў палітычных рухаў, партый і шараговых выбаршчыкаў. Калі я, як прыватная асоба і адначасова ўдзельнік руху БНФ, атрымаў ці заробіў грошай у валюце і выдаткаваў па сваім меркаваньні, напрыклад, на справы Фронту—дык гэта таксама фінансаваньне перадвыбарчай кампаніі? Я ем, сплю, адпачываю, чытаю палітычную літаратуру з думкамі аб наступных выбарах—гэта таксама перадвыбарчая кампанія?

**«Выбар»: І ўсё ж якія кропкі судакрананьня ёсьць паміж дэмакратамі Віцебска і Нінбурга!**

**М. П.:** Згодна пратаколаў, інтарэсы «зялёных», хрысьціянаў-дэмакратаў, сацыял-дэмакратаў і вольных дэмакратаў Нінбурга прадстаўляе ўстанова інтэрнацыянальных сустрэчаў (ІБВ), каардынуючым партнёрам з боку Віцебска ёсьць Віцебская Рада БНФ. Як найбольш арганізаваная сіла, мы прадстаўляем інтарэсы віцебскіх аб'яднаных дэмакратаў і сацыял-дэмакратаў. Віцябляне павінны выдрукаваць бюлетэнь пра сумесныя намаганьні дзеля развіцьця дэмакратыі. З 10 па 12 верасьня 1993 года ў Віцебску для патэнцыяльных кандыдатаў у дэпутаты будзе праведзены семінар па тактыцы выбарчай барацьбы, палітычнай сістэме Нямеччыны, выбарчаму праву ФРГ і г. д. Правядзе семінар сацыял-дэмакрат спадар Лотар Гробнэр з Ніжнесаксонскага цэнтру палітычнай адукацыі ў Гановеры. Гэтым семінарам зацікавіўся Фонд спрыяньня дэмакратычным рэформам імя Лявона Сапегі і, як паведаміў старшыня фундацыі Георг Куневіч, спрычыніцца да яго правядзеньня. Два разы на год віцебскія палітыкі павінны наязджаць у Нінбург. На жаль, не зладзілася паездка ў траўні 1993 г. Тым разам у Нямеччыну павінны былі ад'ехаць 8 чалавек, сярод іх два дэпутаты гарсавету і адзін дэпутат абласнога Савета. Зразумела, што такія візіты быццам костка ў горле гарадзкой камуністычнай уладзе, таму і была ўсунутая палка ў кола. Непрыгожую ролю ў гэтым абломе згуляла турыстычная фірма «Спутник», дырэктар якой спадар Сяргей Галуза заявіў, што справа афармленьня дакументаў была асабістай праблемай спадароў палітыкаў. Між іншым астатніх удзельнікаў паездкі (непалітыкаў) «Спутник» паінфармаваў загадзя і своечасова запрасіў запоўніць адпаведныя дакументы. Так што ў будучым мець стасункі з гэтай нядобразычлівай фірмай Фронт не плануе.

**«Выбар»: Ці маеце яшчэ якія кантакты з замежжам!**

**М. П.:** У 1989 годзе Віцебская Рада БНФ атрымала ад заходне-берлінскай арганізацыі «Мірная ініцыятыва» апарат па замеры колькасьці радыёнуклідаў у прадуктах харчаваньня па цэзію «Бекерэль-манітор ЛБ-200» коштам 5500 нямецкіх марак, на сёньня гэта складае каля 4,6 мільёна рублёў. Апарат быў атрыманы дзеля наладжваньня працы пункту незалежнага дазіметрычнага кантролю. Але Віцебскі абласны камітэт па ахове прыроды ў асобе ягонага старшыні Б. Плавінскага начыста адмёў гэтую прапанову і нічым не дапамог. Сілаў на адкрыцьцё незалежнага дазіметрычнага пункту не хапіла, таму «Бекерэль-манітор» быў пад расьпіску перададзены ў Віцебскі інстытут радыяцыйнай медыцыны, дзе выкарыстоўваецца да сёньня. Маем добрыя адносіны з Польска-Чэска-Славацкай Салідарнасьцю, заснаванай яшчэ Вацлавам Гавелам і Лехам Валенсам. Добрая перапіска ўсталявалася з Аб'яднаньнем беларусаў Аўстраліі.

Што да сімпатый іншаземцаў да нашых палітычных арганізацыяў і перарастаньняў іх ва ўмяшальніцтва ў нутраныя справы Беларусі, то хай гэтае ўмяшальніцтва заканстатуе адпаведная дзяржаўная ўстанова. Калі такой канстатацыі няма, то, відаць, няварта вешаць абвінавачваньне на нейкую краіну. Наколькі я ведаю, з нашым асноўным палітычным праціўнікам—камуністамі—не надта жадаюць сумоўя прадстаўнікі таго ж замежжа. Больш таго, на запланаваны ўвосень семінар для кандыдатаў у дэпутаты прадстаўнікоў пракамуністычных структураў прасілі не запрашаць. Разам з тым прагледжваецца вялікае зацікаўленьне нямецкіх палітыкаў, бізнесмэнаў да Беларусі. Трэба быць дурнем, каб не знайсьці з гэтага зацікаўленьня вялікую карысьць для Беларусі.

## І масла ў якасці прэзента

У мінулую сераду з кароткачасовым візітам у Віцебску знаходзілася дэлегацыя «Сіці Хоуп Інтэрнэшнл». На гэты раз у горад прыехалі кіраўнік дабрачыннай арганізацыі Пол Сартэл Мор з жонкаю Шэран Ілэйн Мор, прадстаўнікі фірмаў «Хайнц», «Квінсі», «Гербер», прадукцыя якіх і складае гуманітарную дапамогу.

У аблвыканкаме амерыканцы сустрэліся з намеснікам старшыні А. Каралёвым і некаторымі іншымі кіраўнікамі. Затым яны скіраваліся ў магазін «Цэнтральны», дзе пабачылі продаж таннага масла са Злучаных Штатаў. П. Мор набыў паўкілаграма прадукта і падарыў яго першай жанчыне, што трапілася на вуліцы.

Госці наведалі таксама і Дом дзіцяці ў Некраполлі.

Пасля гэтага група адбыла ў Гародню.

Ю. СЯРГЕЕЎ.

## І як заўсёды— аўтографы

Невялічкая станцыя Крынкі на Лёзненшчыне. Прыгажосць прыроды, шчырасць людскіх сэрцаў. Тут амаль сорак гадоў таму назад у сярэдняй школе, якая носіць цяпер імя Міхася Лынькова, пачынаў настаўнікам сваю працоўную дзейнасць віцебскі пісьменнік Давід Сімановіч.

Таму й невыпадкова, што менавіта тутака з нагоды 45-годдзя творчасці літаратара прайшоў паэтычны вечар. На ім выступілі дырэктар школы С. Жарына, ветэран вайны й працы А. Каралёў, кіраўнік школьнага музея М. Лынькова Л. Алёшкіна. Аўтар-выканаўца В. Гудзялёва праспявала «Песню аб маленькай станцыі», якую Сімановіч прысвяціў Крынкам. Вучні чыталі ягоныя творы. Удзячны аўтар падарыў ім аўтографы.

М. ВАЛАЧОБНІК.

*Па старонках тутэйшых газет*

# І Маркс быў камерсантам?

8 чэрвеня ў «Віцебскім рабочым» змешчана інтэрв'ю з дэлегатамі II з'езда партыі камуністаў Беларусі Г. Харытонавай і Т. Ішчанка, якое ўзяў у іх дэлегат гэтага ж з'езда журналіст Л. Саратокін. На пытанне: «Якое вызначэнне падзеі, што адбылася, далі б Вы?» Тамара Уладзіміраўна Ішчанка, у прыватнасці, адказала: «Важны. Вельмі і вельмі патрэбны і для камуністаў, і для людзей». Дык што, камуністы—не людзі? Напэўна, маецца на ўвазе для ўсіх астатніх людзей, беспартыйных. Чаму «вельмі патрэбны і важны»? Аказваецца, людзі «з кожным днём рэальней пачынаюць усведамляць тую ісціну, што няма ў простага чалавека іншага абаронцы, чым партыя камуністаў».

Вось так. Забудзьце, людзі, што 70 гадоў з простага чалавека здзекавалася камуністычная партыя. Забудзем пра ленінска-сталінскі тэрор, пра ГУЛАГ, пра калектывізацыю. Забудзем, хто паслаў нашыя войскі на бессэнсоўную бойню ў Афганістан, хто вінаваты ў Чарнобылі, хто хаваў праўду ад народа пра ўсе гэткія крывавыя злачынствы. Забудзем, што пад кіраўніцтвам камуністычнай наменклатуры разбазарваліся прыродныя багацці і сама прырода бязлітасна знішчалася. Забудзем, як забыліся па загаду камуністычных правадыроў, пра сваю шматвяковую гісторыю.

І зноў пачнём пад «мудрым» кіраўніцтвам будаваць. Што канкрэтна будаваць, нам падказвае Г. Харытонава, цытуючы праграму сваёй партыі: «... пабудаваць грамадства, свабоднае ад эксплуатацыі, заснаванае на прынцыпах сацыяльнай роўнасці і справядлівасці, чалавечнасці адносін паміж людзьмі, здольнае забяспечыць духоўнае і фізічнае развіццё кожнага».

Тое ж самае абяцала хрушчоўская праграма стварыць да 1980 года. Камуністычная наменклатура, здзекуючыся з народа, паспяхова пабудавала камунізм для сябе, раскошна жыла, адгарадзіўшыся ад простага люду сцяной прывілеяў дый ільгот. Зручна ўладкавалася яна і цяпер. Стварыла безуладдзе, і, карыстаючыся маўчаннем народа, усімі магчымымі спосабамі энергічна расцягвае па сваіх кішэнях народнае дабро. Хто цяпер будуе шыкоўныя катэджы? Пэўна, рабочаму, селяніну, настаўніку гэткія гмахі заробак не дазваляе ўзвесці.

Камуністы на апошнім з'ездзе не толькі «клапаціліся» пра народ, але і пра сябе, як звычайна, не забыліся. Яны самі сабе дазволілі займацца камерцыяй, спаслаўшыся на тое, што Маркс і Энгельс былі прадпрымальнікамі. Цікава, як у гэтую схему ўпісваецца Ленін, які ўсё жыццё змагаўся з капіталістамі-прадпрымальнікамі? Ці пра яго бальшавікі забыліся? Хутчэй за ўсё, як кажуць Т. Ішчанка і Г. Харытонава, «ад рэалій жыцця нікуды не дзенешся». І хоць Галіне Харытонавай вельмі не да спадобы прыватная ўласнасць, рэчаіснасць сведчыць, што менавіта яна (уласнасць) забяспечыла эканамічны росквіт і палітычную стабільнасць вядучых дзяржаў—ЗША, Японіі, Германіі, Францыі, Вялікабрытаніі і іншых.

Пагэтаму верны ленінец Л. Саратокін можа спакойна займацца камерцыяй.

**А. БУКАЧОЎ.**

## РЭПЛІКА

Г. Каралёў у «Віцебскім рабочым» ад 10 чэрвеня г. г. распавядае пра сьвяткаваньне 600-годзьдзя Дуброўны. Дубровенцы многа робяць дзеля ўмацаваньня дружалюбных адносін з працаўнікамі Красьненскага раёну Смаленскай вобласьці, адзначае аўтар. Няўжо паважаны Г. Каралёў ня ведае, што насельніцтва Красьненскага раёну—гэта тыя ж самыя беларусы, што і ў Дубровенскім раёне, толькі адышлі калісьці пад юрысдыкцыю РСФСР. Але яны—аўтахтоны, спрадвечныя жыхары на сваёй зямлі. Нават тыпова беларускае прозьвішча кіраўніка адміністрацыі Красьненскага раёна сп. Ліцьвінава сьведчыць пра гэта. Пра беларусаў Смаленшчыны не сказалі ні слоўца народныя дэпутаты У. Кулакоў з І. Цярэшкам. А цікава б было ведаць, як Рэспубліка Беларусь апякуе смаленскіх беларусаў—колькі беларускіх кніжак даслалі, колькі школак беларускіх адчынілі, колькі навучэнцаў мэтанакіравана прынялі ў беларускія ВНУ. Дый толькі дарэмна—камуністычную наменклатуру гэта ніколі не цікавіла і наўрад ці зацікавіць.

Г. Каралёў яшчэ нагадвае сапраўды цікавы штрых—як дубровенская чэрнь у 1514 годзе прасілася пад маскоўскае падданства. І падае гэтую падзею як сімвал спрадвечнай дружбы рускіх (маскавітаў) і беларусаў (ліцьвінаў). Вось толькі якімі сяброўствам і любоўю растлумачыць бясконцыя напады Масковіі на беларускія землі з канца XV стагодзьдзя? Так ня тое што пад крысо «Трэцяга Рыму», але і да турэцкага султана будзеш прасіцца—абы выжыць.

**Бацькаўшчынец.**

## А ЯНЫ ПРАХОДЗІЛІ...

На мінулым тыдні партыя камуністаў і «Працоўны Віцебск» на пляцы Волі збіралі подпісы ў падтрымку звароту другога з'езда ПКБ да Вярхоўнага Савета.

Дынамік разносіў над плошчай бравурныя маршы і песні. Развяваліся на ветры сцягі неіснуючых СССР і БССР. Жанчына сярэдніх гадоў у перапынках між музыкай зачытвала зварот камуністаў. «...Не дапусціць увядзення вольных рознічных цэнаў на прадукты харчавання і прадметы першай неабходнасці, бо ўвядзенне такіх цэн небяспечна сацыяльным выбухам, які прывядзе да трагедыі... Аднавіць разарваныя эканамічныя і культурныя сувязі, аднавіць СССР...» і г. д. «Віцябляне! Не праходзьце міма! Падпісвайцеся пад нашым зваротам!»,—перыядычна разносілася рэхам над старым горадам.

Народу тут, у цэнтры Віцебска, як і заўсёды, праходзіла нямала, але амаль ніхто не зважаў на заклікі. Людзі, занятыя будзёнными клопатамі, спяшаліся па больш важных справах.

Ім было не да палітыкі... Мо таму не імкнуліся ставіць подпісы, што бальшавікі каторы раз клікалі вярнуцца ў мінулы час? Але прошлага не вернеш, пра яго можна толькі ўспамінаць...

А кабета ўсё крычала ў мікрафон хрыпатым голасам ды шкадавала, што віцябляне праходзілі міма.

**А. ЯСНЫ.**

## «Зайчык» па «зайцах» не ўдарыў

Для многіх віцяблянаў стала няпісаным правілам: калі ў сталіцы павышаюцца кошты праезду гарадскім транспартам—чакай падобнага ж і ў нас.

Адразу пасля чарговага, травеньскага, павышэння цаны праезду ў Менску ў абласным цэнтры квіткі зніклі з продажу. Прадбачлівыя гараджане загадзя парупіліся пра сваю кішэню. Накупіліся білетаў. І не толькі аднаразовых, але й месячных.

Мусіць, перачакаўшы гэтае, з 3 чэрвеня аблвыканкам павысіў плату за паездку ў 2 разы. Цяпер білет-«аднаразавік» каштуе, як ведаем, «зайчык». Месячны праязны для ўсіх відаў гарадскога транспарту ўзляцеў да 800 рэ, на адзін від—да 500...

Але, як заўсёды, файна старым ды малым. Ім усё адно—бясплатна.

**Ю. СЯРГЕЕЎ.**

*З архіваў*

## «Бухгалтэрыя» смерці



Помнік ахвярам гітлераўскага фашызму ў Віцебску.

Фотаздымак А. ЛАКАТКО.

**Мы працягваем друкаваць спісы вязняў Віцебскай гарадской турмы СД. Пачатак публікацыі—у «Выбары» №№ 17,18 (чэрвень 1993 года). Спісы друкуюцца паводле дакумента «Рэгістрацыйны журнал асоб, арыштаваных СД», які вёўся на нямецкай мове і ахопліве перыяд з чэрвеня па снежань 1942 года. Мы імкнёмся максімальна перадаць асаблівасці арыгінала.**

**Непаслядоўнасць дат ды недакладнасць некаторай іншай інфармацыі, якія сустракаюцца ў спісе, тлумачацца тым, што менавіта так яны пададзены ў дакуменце. У якіхсьці імёнах і прозвішчах вязняў магчымыя скажэнні ў выніку падвоенага перакладу—з рускай мовы на нямецкую і наадварот, а таксама з-за асаблівасцяў рукапіснага арыгінала.**

**Рэдакцыя выказвае шчырую падзяку супрацоўнікам Віцебскага абласнога архіва за дадзены дакумент.**

### Тетрадь № 8

**Фонд 2155, опись 2, дело 5**

| Прибытие | Убытие | Номер арестованного | Номер камеры | Фамилия, имя | Кто доставил, арестовал |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | **16.6.42 г.** | |
| 1 | — | 2479 | 91 | Каплан Еханом | 5 полиц. |
| 1 | — | 2480 | 91 | Сидеко Беньямин | 5 полиц. |
| 1 | — | 2481 | 89 | Рубинчик Вера | 5 полиц. |
| 1 | — | 2482 | 89 | Каплан Роза | 5 полиц. |
| 1 | — | 2483 | 89 | Каплан Гиндо | 5 полиц. |
| 1 | — | 2484 | 91 | Райгородский Залман | 5 полиц. |
| 1 | — | 2485 | 94 | Козлов Петр | из больницы |
| 1 | — | 2486 | 97 | Гусаров Александр | из больницы |
| 1 | — | 2487 | 99 | Яшинский Иван | СД |
| 1 | — | 2488 | 99 | Мироненко Владимир | СД |
| 1 | — | 2489 | 99 | Рублевский Владимир | СД |
| 1 | — | 2490 | 99 | Саранкевич Юзеф | СД |
| 1 | — | 2491 | 94 | Семенюк Александр | СД |
| 1 | — | 2492 | 94 | Решетов Александр | СД |
| 1 | — | 2493 | 94 | Сорокин Анатолий | СД |
| 1 | — | 2494 | 88 | Иванова Таира | СД |
| 1 | — | 2495 | 88 | Шульга Елена | СД |
| 1 | — | 2496 | 84 | Каскаревич Николай | СД |
| 1 | — | 2497 | 84 | Гончарик Казимир | СД |
| 1 | — | 2498 | 84 | Токарский Мануэль | СД |
| | 1 | 2426 | 73 | Орламьёв Иван | СД |
| | 1 | 2405 | 38 | Аганесов Владимир | СД |
| | 1 | 2250 | 94 | Ослин Николай | СД |
| | 1 | 2000 | 27 | Касаников Иван | прокурор |
| 1 | — | 2499 | — | Сайер Николай | СД |
| 1 | — | 2500 | — | Комисарова Агрофина | СД |
| 1 | — | 2501 | — | Никитюк Израель | СД |
| | 1 | 2236 | 84 | Кориницкий Лев | умер |
| 1 | — | 2502 | 15 | Плиско Петр | 4 полиц. участок |
| 1 | — | 2503 | 15 | Мелигрий Стефан | СД |
| 1 | — | 2504 | 15 | Маньковский Сланис | 1 полиц. участок |
| 1 | — | 2505 | 15 | Барановский Нополу | 1 полиц. участок |
| | 1 | 1172 | 60 | Бошло Безак | умер |
| 1 | — | 2506 | 11 | Агафонов Николай | СД |
| 1 | — | 2507 | 6 | Мошенко Денис | СД |
| 1 | — | 2508 | 10 | Рудас Николай | СД |
| 1 | — | 2509 | 10 | Твердов Николай | СД |
| 1 | — | 2510 | 6 | Борисов Игнат | СД |
| 1 | — | 2511 | 9 | Евчиков Николай | СД |
| 1 | — | 2512 | 9 | Кулев Егор | СД |
| 1 | — | 2513 | 11 | Фролович Алексей | СД |
| | | | | **18.6.42 г.** | |
| | 1 | 830 | 99 | Пузило Владимир | в больницу |
| | 1 | 2398 | 87 | Сулькин Тевель | СД |
| 1 | — | 2514 | 15 | Скурихин Михаил | СД |
| | 1 | 1677 | 98 | Грибко Николай | СД |
| | 1 | 1678 | 98 | Пенерад Сергей | СД |
| | 1 | 1679 | 98 | Стабровский Леонид | СД |
| 1 | — | 2515 | 15 | Шлабадо Сара | 4 полиц. участок |
| 1 | — | 2516 | 12 | Криваль Гена | СД |
| 1 | — | 2517 | 14 | Чабанов Егор | СД |
| 1 | — | 2518 | 14 | Чудяев Нохим | СД |

**(Працяг у наступным нумары).**



Працягваецца рэстаўрацыя славутага Мірскага замка.
НА ЗДЫМКУ: адна з рэстаўрыраваных вежаў.

Фота студэнта мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педінстытута Алеся АНІСКОВІЧА.

## Мастацтва патрабуе... грошай

Куды ўкладваць грошы ў наш час? У СКВ, золата, акцыі надзейных фірмаў,—адкажа чытач. Я ж дадам: «...і ў мастацкія творы». Іхняя каштоўнасць нават у неінфляцыйныя гады расце—сапраўдны талент з цягам часу ацэньваецца ўсё больш.

Канешне, выбраць твор, на які можна паставіць і не прайграць у будучыні, не так лёгка чалавеку, які прафесійна не займаецца мастацтвам. І наўрад ці тут дапамогуць спецыялізаваныя магазіны.

Лепш адразу ж звяртацца да профі ў выставачных залах (а іх, між іншым, у Віцебску некалькі), дзе прадаюцца жывапіс, графіка, скульптура і г. д. Асаблівае мейсца ў гандлі мастацкімі творамі займае выставачная зала абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці (Леніна, 35-а). Тут апроч названых відаў, можна набыць і прадметы прыкладнога мастацтва.

Кошты на мастацкія работы, зразумела, немалыя. Напрыклад, жывапісная карціна ніжэй пяці тысячаў—незвычайная рэдкасць. Столь цэнаў вызначыць цяжка. Аднак у любым выпадку творы ацэньваюцца значна ніжэй сусветнага ўзроўню. Пагадзіцеся, дарагая (для нас) работа цаною ў 200 тысяч рублёў для заходняга пакупніка да смешнага танная.

З усяго мяйсцовага рынка мастацкіх прац, здаецца, выдзяляецца толькі галерэя «У Пушкіна». Мастакі, што там «прадаюцца», на дробязі не разменьваюцца й ацэньваюць сваю працу даволі высока—у доларах і па сусветных коштах.

**Назіральнік.**

## Віцебскія палітычныя дыялогі

Камуніст пытаецца ў сябра БНФ:

—Што вы зробіце з намі, калі прыйдзеце да ўлады?

—Мы аддадзім вам наступны прыказ: «Рукі ўгору! Сядайце, устаньце, зрабіце нагінанні ўлева, управа, наперад, дакраніцеся рукамі падлогі. Замрыце. Не перашкаджайце рынкавым адносінам».

*Беларускі друк—да вашых паслуг!*

## Зноў «прысуд» выносіць рана

Падпіска, пра завяршэнне якой 4-га крыху раней пісалі газеты, так і не закончана. На некаторыя мясцовыя выданні яна будзе спынена трохі пазней.

А вось вынікі падпісной кампаніі на рэспубліканскія газеты й часопісы па гораду амаль ясныя. На 9 чэрвеня выпісана 859 экземпляраў «Звязды» (першае месца сярод беларускамоўных), 4767—«Народнай газеты», 411—«Настаўніцкай...» На «Чырвонку» (якая, дарэчы, ад нядаўна выходзіць тры разы на тыдзень) падпісаліся 75 чалавек. «Літаратура і мастацтва» набыла 219 прыхільнікаў. Па 90 гараджан выбралі пісьменніцкае «Полымя» і дзіцячую «Бярозку». 81 асоба падпісалася «Маладосць».

**М. ВАЛАЧОБНІК.**

## Прэсы более

У Менску з'явілася новае агульнарэспубліканскае выданне—бюлетэнь Беларускай лігі правоў чалавека «Права человека».

«Выхад яго ў свет—спроба пачаць працэс адраджэння права, фарміравання прававедамасці ў жыхароў Беларусі як асновы чалавечай годнасці незалежна ад партыйных, нацыянальных, класавых, рэлігійных поглядаў і адрозненняў»,—гаворыць галоўны рэдактар «Прав человека» Яўген Новікаў.

Выданне выйшла накладам 10 тысяч на рускай ды беларускай мовах. З'яўленне новых нумароў будзе залежаць ад фінансавай падтрымкі бюлетэня. Дапамагчы «Правам человека» можна ахвяраваннямі на разліковы рахунак: 700805 МФО 765 АКБ «Беларускі народны банк».

**Ю. Т.**

Аператыўна, бясплатна, для ўсёй Віцебшчыны і не толькі для яе—аб'явы, віншаванні, пажаданні, спачуванні. Тэлефон 37-28-44.

## Мастацкія фільмы на рэшту тэлетыдня

### СЕРАДА, 16 ЧЭРВЕНЯ

**Беларускае тэлебачанне**

9.20 і 21.35. «Мачаха».

**Канал «Астанкіна»**

8.40 і 18.05. «Проста Марыя».
10.20 і 20.40. «Азбука кахання». 2-я і 3-я серыі.
11.20. «Дрэсіроўшчыкі». 3-я, 4-я серыі.
12.10. «Маленькія трагедыі». 2-я серыя.

**Канал «Расія»**

11.05 і 19.25. «Санта-Барбара».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.05. «Мая другая мама».
15.40. «Корцік». 3-я серыя.

### ЧАЦВЕР, 17 ЧЭРВЕНЯ

**Беларускае тэлебачанне**

9.20 і 21.35. «Мачаха».
11.00. «Нічога не здарылася...».
16.05. «І яшчэ адзін радасны дзень», «Падзорная труба», «Пажар у флігелі».

**Канал «Астанкіна»**

8.30 і 18.00. «Проста Марыя».
10.20. «Азбука кахання». 3-я серыя.
11.20. «Дрэсіроўшчыкі». 5-я, 6-я, 7-я серыі.
12.40. «Маленькія трагедыі». 3-я серыя.
21.10. «Верце мне, людзі».

**Канал «Расія»**

11.05 і 19.25. «Санта-Барбара».
13.25. «Забіць шакала».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

11.40. «Жалезны дождж».
15.40. «Бронзавая птушка». 1-я серыя.
21.00. «Мая другая мама».

### ПЯТНІЦА, 18 ЧЭРВЕНЯ

**Беларускае тэлебачанне**

9.20. «Мачаха».
11.30. «Гэты нягоднік Сідараў».
21.35. «Мінэ» (Турцыя).

**Канал «Астанкіна»**

8.20. «Старая, старая казка».
20.55. «Дух-наведвальнік».

**Канал «Расія»**

11.05. «Санта-Барбара».
16.50. «Разгублены прафесар». 2-я серыя.
19.25. «Крышачку сонечнага свята».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.05. «Мая другая мама».
15.40. «Бронзавая птушка». 2-я серыя.
20.55. «Два гусары».
23.25. «Шарада» (ЗША).

### СУБОТА, 19 ЧЭРВЕНЯ

**Беларускае тэлебачанне**

8.25. «Мінэ» (Турцыя).
21.40. «Камураска».

**Канал «Астанкіна»**

11.40. «Прашу слова».
17.55. «Палюбоўнік у прыдачу» (ЗША).
20.40. «Развітальная песня агню».

**Канал «Расія»**

19.25. «Па-банку».
0.05. «Пачатак».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

8.15. «Шарада» (ЗША).
11.05. «Сільва».
20.50. «Мая другая мама».

### НЯДЗЕЛЯ, 20 ЧЭРВЕНЯ

**Беларускае тэлебачанне**

8.55. «Мачаха».
21.05. «Фаварыты Месяца» (Францыя).

**Канал «Астанкіна»**

11.05. «Прыгоды Чорнага Прыгажуна».

**Канал «Расія»**

11.00. «Мемента моры».
19.25. «Вяртанне ў Додж».

**Санкт-Пецярбургскае тэлебачанне**

9.10. «Тэатральныя гісторыі».
16.45. «Маскарад».

## Адным радком

29 траўня ў абласным цэнтры адбыўся III міжнародны фестываль дыксілендаў «Дыксіленд-шоу».

**Н. КІЛДЗІНГ.**

## У кінатэатрах горада з 16 па 20 чэрвеня

**«Беларусь»**

**«Праз каналізацыю»** (ЗША). 9.30, 11.25, 13.20, 15.15, 17.10, 19.05, 21.00.
**«Вярніце мне маю шкуру»** (Францыя, малая зала). 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00.
Аўтаадказчык 14028.

**«Спартак»**

**«Эмануэль»** (Францыя). 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 17.50, 19.40, 21.30.
Аўтаадказчык 365121.

**«Кастрычнік»**

**«Бязлітасныя людзі»** (ЗША). 9.30, 11.20, 13.10, 15.00, 16.50, 18.40, 20.30.
Аўтаадказчык 365544.

**«Брыганціна»**

**«Анкор! Яшчэ анкор!»** (Расія). 14.15, 16.00, 17.45, 19.30, 21.15.
**«Маладая вядзьмарка»** (ЗША). 14.50, 16.30, 18.10, 19.50, 21.30.
Аўтаадказчык 18179.

**«Мір»**

**«Вялікае Саргасава мора»** (ЗША). 11.50, 13.40, 15.30, 16.10, 18.00, 19.50.
**«Долмен»** (ЗША). 9.50, 11.30, 13.00, 14.30, 17.20, 18.50, 20.20.

**«Усход»**

**«У кальцы»** (ЗША). 14.00, 15.40, 17.20, 19.00, 20.30.
Аўтаадказчык 332936.

**Відэатэатр «Віцьба»**

Аўтаадказчык 14945.




Заснавальнік

*Віцебскі гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары»*

●

**Галоўны рэдактар Барыс ХАМАЙДА**

●

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Валянцін АРЛОЎ**
**Хрыстафор ЖАЛЯПАЎ**
**Васіль ІГНАЦЕНКА**
**Юры ЛАЎРЭНАЎ**
**Ларыса МІХНЕВІЧ**
**Міхась ПАЎЛАЎ**
**Уладзімір ПЛЕШЧАНКА**
**Леанід ТАМАРОВІЧ**
**Ігар ЦІШКІН**

●

Мастак **Р. Клікушын.**
Фотаздымкі **М. Міхайлава.**
**Адрас рэдакцыі:** 210601, м. Віцебск, вул. Гогаля, 17.
**Тэл. 37-35-06, 37-28-44.**

**Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор ды дакладнасць пададзеных фактаў, цытатаў, гаспадарча-статыстычных даных, уласных імёнаў, геаграфічных назваў і іншых звестак. А таксама за тое, што ў матэрыялах пададзены звесткі, якія з'яўляюцца дзяржаўнай ці спецыяльна ахоўваемай законам таямніцай.**

**Рэдакцыя можа апублікаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

**Пры перадруку спасылка на «Выбар» абавязковая.**

Рукапісы не вяртаюцца й не рэцэнзуюцца.

**Бягучы рахунак рэдакцыі № 200700962 у Віцебскім камерцыйным банку (Віцкамбанк). Код (МФО) банка 150801701.**

**Газета набраная і надрукаваная афсетным спосабам у Віцебскай узбуйненай друкарні імя Камінтэрна: г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 6.**

Выходзіць штотыднёва па сярэдах

Нумар падпісаны да друку 15.06.1993 г. у 17.15.
Наклад 1500 экз.

**Цана 3 руб.**